# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

31.01.13-6.02.13 г.


## ПАКРЫЎДЗІЛІ МАЦІ-АДЗІНОЧАК,



ІПЭШНІЦ, АДВАКАТАЎ І НАТАРЫУСАЎ

СТАР. 4–5

## ЧАРГОВАЯ МАЛОЧНАЯ

ВАЙНА НА ВЫЖЫВАННЕ




СТАР. 6-7

# АБВАЛ У БЕЛАРУСІ З… БРАМНІКАМІ

**Днямі на нарадзе ў Аляксандра Лукашэнкі абмяркоўвалася, як лепш падзяліць грошы паміж спартоўцамі. Усё астатняе, відаць, знаходзіцца на ўзроўні.**

Кіраўнік Беларусі пачаў пасяджэнне з уступнага слова:

— Я не хотел бы, чтобы это совещание превратилось в очередное выбивание денег для спортивных организаций, клубов и спортсменов на предстоящий год или какой-то предстоящий период. Вот это выкиньте сразу из головы, этого не будет… И пусть не надеются все время висеть на шее у государства!

> “Потым прысутныя панаракалі на заробкі гульцоў і, нарэшце, зрабілі выснову: існуючая сістэма дзяржаўнай падтрымкі спорту з’яўляецца эфектыўнай!”

Пасля гэтага якраз і пачалося абмеркаванне таго, як найбольш далікатна ўладкаваць на карку дзяржавы (лічы: падаткаплацельшчыкаў) арганізацыі кшталту хакейнага клуба “Дынама-Мінск”. Апошні вызначыўся касмічным, па тутэйшых стандартах, сярэднім заробкам у месяц — амаль у 50 тысяч долараў — і досыць сціплымі вынікамі.




*Грошы яшчэ трэба умець захоўваць і карыстацца імі*

Аднак ніякіх санкцый у дачыненні да любімай цацкі Аляксандра Лукашэнкі ўжыта не было. Кіраўнік Беларусі толькі паразважаў наконт колькасці замежнікаў у складзе “Дынама”, прапанаваўшы, каб іх было 6.

— Ну, поскольку у нас обвал с вратарями, можно еще седьмым взять в «Динамо» вратаря.

Дык вось з чым у Беларусі абвал — з брамнікамі! А ўсё астатняе, відаць, знаходзіцца на ўзроўні.

## А “МАЛІНА” ЎСЁ НЕ СПЫНЯЕЦЦА

Таксама Лукашэнка пакрытыкаваў справы з фінансамі: «Как мне докладывают, отойти от порочной практики, когда за сметы никто не отвечает, до сих пор не удается». Потым прысутныя панаракалі на заробкі гульцоў і, нарэшце, зрабілі выснову: існуючая сістэма дзяржаўнай падтрымкі спорту з’яўляецца эфектыўнай!

Гэтая выснова выглядае дзіўнай на тле чэмпіянатаў Беларусі па футболе і хакеі (не кажучы ўжо пра іншыя віды спорту). Спаборніцтвы, якія амаль ва ўсім свеце прыцягваюць вялізную ўвагу заўзятараў, у нас ператварыліся ў “кіно не для ўсіх”: на матчах часцяком прысутнічае некалькі соцень гледачоў.

Нацыянальныя зборныя па тым жа футболе і хакеі сталі аб’ектамі для кпінаў. Тыя ж, хто дасягае выніку на міжнароднай арэне, часта застаюцца на мізэрным фінансаванні (як, да прыкладу, жаночая зборная Беларусі па баскетболе).

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## СЯРЖАНТА АМАПА ЗАТРЫМАЛІ ЗА ВЫМАГАЛЬНІЦТВА

**У Магілёве супрацоўнік АМАПа вымагаў грошы за станоўчае вырашэнне пытання пра незаведзенне крымінальнай справы, паведамляе odsgomel.org.**

Следчы камітэт па Магілёве распачаў у дачыненні да былога сяржанта АМАПа крымінальную справа за махлярства. Паводле дадзеных следства, баец спецпадраздзялення атрымаў ад мясцовага жыхара два мільёны рублёў за незаведзенне крымінальнай справы.

Між тым экс-праваахоўнік не мог вырашыць гэтае пытанне, таму што яно было па-за яго кампетэнцыяй.

На наступны дзень пасля атрымання хабару сяржант звольніўся з органаў па пагадненні бакоў, гэта значыць па матывах, што не дыскрэдытуюць ні яго, ні органы ўнутраных справаў.

Праваахоўнікі праводзяць расследаванне ў дачыненні да былога калегі. Калі віна будзе даказаная, максімальны тэрмін пазбаўлення волі для яго будзе роўны двум гадам.

**Каб аформіць падпіску “Тут і цяпер”,** трэба адправіць смс са сваім адрасам на нумар **8 10 370 61 770 680**

# ЦІ СТАНЕЦЕ ВЫ МЕНШ ЕЗДЗІЦЬ У ГРАМАДСКІМ ТРАНСПАРЦЕ?

Неўзабаве праехаць на аўтобусе, тралейбусе ці трамваі стане даражэй амаль на 20 адсоткаў. Наколькі балючым падаецца гэтае павышэнне нашым суайчыннікам, разбіралася "Тут і цяпер".

**АНЖАЛІКА КУТАСАВА, ІНЖЫНЕР:**

### "ПАКУЛЬ ЦЯРПІМА".

— А што значыць менш ездзіць? З работы звольніцца? Ці пайсці працаваць непадалёк дома — дворнікам ці прадаўцом у магазін? Можа, і прыйдзецца калі-небудзь, але не пасля гэтага павышэння. Яшчэ цярпіма. Вось калі талончык будзе каштаваць, як у Вільні ці Варшаве, а заробкі застануцца беларускімі, тады тралейбус ці трамвай стануць раскошай і паездка ў цэнтр горада на тралейбусе ператворыцца ў падзею — у падарожжа выходнага дня.

**ТАЦЦЯНА КАЗМІРУК, ЭКАНАМІСТ:**

### "ПАРА ПАЗБАВІЦЦА ХАЛЯВЫ".

— Калі ў вас ламаецца ўласны аўтамабіль, вы абураецеся наконт цэн на дэталі? Вы выбераце кітайскія дэталі невядома якой якасці або фірменныя? Вядома ж, фірменныя. Калі гэта тычыцца ўласнай бяспекі, то за цаной, як кажуць, не пастаім. А грамадскі транспарт чамусьці прызвычаіліся лічыць нейкай халявай. Вы даўно бачылі старыя рыжскія трамваі на вуліцах? Ці страшныя "Ікарусы", дзе зімой халадней, чым на вуліцах? Да добрага прывыкаеш хутка. У цяпле ездзім на мяккіх сядзеннях за дваццаць амерыканскіх цэнтаў. У якой яшчэ краіне вы бачылі такія цэны?

**АФІЦЫЙНА**

### ПРАЕЗД У ГРАМАДСКІМ ТРАНСПАРЦЕ МІНСКА Ў І КВАРТАЛЕ ПАДАРАЖЭЕ НА 17,5%

**Тарыфы на праезд у грамадскім транспарце Мінска ў першым квартале 2013 павялічацца на 17,5%. Аб гэтым паведаміла журналістам намеснік старшыні Мінгарвыканкама Жанна Бірыч, перадае карэспандэнт БелТА.**

**Плануецца, што кошт адной паездкі складзе Br2000.**

**Рост тарыфаў звязаны з невысокім працэнтам акупнасці паездак (насельніцтва пакрывае толькі 37% выдаткаў транспартных арганізацый). Сённяшняя тарыфная палітыка ўвязана з планаваным ростам заробкаў. Што тычыцца дыферэнцаваных падыходаў да праезду ў наземным і падземным транспарце, то такія прапановы ўносіліся, але мяняць існуючую сістэму пакуль што не прадугледжана.**

**«Мы зрабілі разлікі, каб не было скачка ў кошце транспартных паслуг», — сказала Жанна Бірыч.**

**Намеснік старшыні Мінгарвыканкама адзначыла, што ў сферы транспартнага абслугоўвання ў сталіцы рэалізуюцца маштабныя праекты. У прыватнасці, напрыканцы бягучага года неабходна ўвесці ў эксплуатацыю станцыю метро «Малінаўка», будзе абнаўляцца рухомы склад: у планах на гэты год — набыццё 100 аўтобусаў і 30 тралейбусаў. Прадоўжыцца аптымізацыя маршрутнай сеткі з улікам павышэння эфектыўнасці перавозак, хоць гэтыя пытанні не заўсёды знаходзяць разуменне ў мінчан, якія прывыклі карыстацца адным відам транспарту без перасадкі на метро.**



*Для кагосьці грамадскі транспарт стане раскошай*

Калі ў Маскву прыязджаем, дык не надта абураемся іх цэнамі — плацім і едзем. Цяпер і дома будзем плаціць. Хай павышаюць хоць кожны месяц. Можа, халявы нарэшце пазбавімся.

**ВАСІЛЬ МЕЛЬНІКАЎ, СТУДЭНТ:**

### "КЕПСКАЯ НАВІНА ДЛЯ СТУДЭНТАЎ".

— Добра, калі ў вас ёсць багатыя бацькі, якія і за вучобу заплацяць, і на маршрутку дадуць, і яшчэ на начны клуб дабавяць. А вось калі ты з вёскі прыехаў і бацькам кожны год твайго навучання каштуе вялізных намаганняў, то тут ужо не да далікатэсаў. Хай бы яны павышалі, але адначасова вярнулі б студэнтам ільготы. Я б гэтых павышальшчыкаў пасадзіў бы на студэнцкую стыпендыю, хаця б на адзін месяц, і паглядзеў бы на іх потым. Можа, нехта і не заўважыць павышэння кошту праезду, але для студэнтаў гэта самая кепская навіна месяца.

**ВАЛЯНЦІН КАВАЛЮК, БІЗНЕСМЕН:**

### "НЕЎЗАБАВЕ ЎСЕ КІРОЎЦЫ ПАРАЗБЯГАЮЦЦА".

— А вам не сорамна плаціць за паездку так мала, як сёння? Колькі каштуе адзін трамвай ці аўтобус? Колькі каштуе праца кіроўцаў і кантралёраў? Колькі каштуюць салярка і электрычнасць? Ды мінімум у два разы трэба павышаць цану на талон! Яшчэ пара гадоў такога сацыялізму, і ўсе кіроўцы паразбягаюцца.

**НАДЗЕЯ, ПЕНСІЯНЕРКА:**

### "БУДЗЕ БОЛЬШ ПРАСТОРЫ МАЛАДЫМ".

— Асабіста я езджу мала. Да мяне дзеці з унукамі самі прыязджаюць. Але вы заўважылі, што ў транспарце паменела пенсіянераў? Гадоў дзесяць назад ездзілі і ездзілі — абы ехаць. Сёння ўжо кожную капейку пачалі лічыць. Спадзяюся, пасля гэтага павышэння старых у транспарце стане яшчэ менш. Хай дома сядзяць і БТ сваё глядзяць пра жыццё цудоўнае! Ездзіць павінны тыя, хто працуе і падаткі плаціць.

**ВІКТАР ІВАНЕЙЧЫК, ДЫЗАЙНЕР:**

### "ПЕРАСАДЖВАЙЦЕСЯ НА ВЕЛАСІПЕД".

— Якая прыемная для Беларусі навіна! Я рэдка карыстаюся грамадскім транспартам, толькі тады, калі моцныя снегапады. А так у асноўным на веласіпедзе. Гэта лепшы сродак для перамяшчэння па горадзе: і хутка, і для здароўя карысць. Таму ўсім раю забыцца на забітыя салоны аўтобусаў і набыць сабе добры ровар. Новы лад жыцця вам спадабаецца.

**АПЫТАННЕ ПРАВОДЗІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# АБВАЛ У БЕЛАРУСІ З… БРАМНІКАМІ

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 1*

Пастаўленая задача — каб да 2015 года спартовыя клубы выйшлі хаця б на 50%-ную самаакупнасць — відавочна правальваецца. Як адзначыў камітэт Дзяржкантролю, мінімум чвэрць клубаў наогул не імкнуцца нешта рабіць у гэтым кірунку. Навошта, калі грошыкі можна атрымаць ад дзяржавы, нягледзячы на даўнія пагрозы Аляксандра Лукашэнкі спыніць гэтую "маліну"?

І ўсё гэта лічыцца "эфектыўнай сістэмай"?!

## НАПЕРАДЗЕ — НЕПАЗБЕЖНЫ ЗЕМЛЯТРУС

Яшчэ адзін прыклад з гэтай жа серыі можна знайсці ў інтэрв'ю кіраўніка ФК БАТЭ **Анатоля Капскага** на партале Goals.By:

— Пинск и Лунинец всегда были футбольными городами. И вообще, Брестская область исторически очень футбольная. Наш Александр Владимирович Ермакович родом из Лунинца. И вот там построили хоккейный дворец. В итоге и хоккея нет, и футбол умер…

Дадамо, што большасць існуючых клубаў памрэ ў той момант, калі іх адлучаць ад фінансавай "соскі". А гэта рана ці позна здарыцца. Гутарка пра дзяржпадтрымку спорту аднавілася найперш таму, што грошай у казне бракуе ўжо цяпер. Далей будзе горш, і "ўразаць" выдаткі пачнуць яўна не з сілавых структур.

Наперадзе ў беларускага спорту непазбежны землятрус, выжыць падчас якога здолеюць нямногія. Зрэшты, гэта тычыцца і іншых галін. Вось тады шмат хто даведаецца пра сапраўдны сэнс слова "абвал"…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ТОП-5 З ЖЫЦЦЯ ВІКТОРЫІ АЗАРАНКІ

**Вікторыя Азаранка другі раз запар выйграла адкрыты чэмпіянат Аўстраліі і захавала за сабой тытул першай ракеткі свету. У фінальным матчы, які адбыўся 26 студзеня ў Мельбурне, Азаранка выйграла ў кітаянкі На Лі (6 — 4:6, 6:4, 6:3) і захавала лідарства ў сусветным рэйтынгу.**

Сёння Азаранка ўсяго 23 гады, і спадзяёмся, што яна нас шмат чым яшчэ парадуе.

"Тут і цяпер" выбрала пяць цікавых момантаў з жыцця Азаранка.




## ТЭНІСНАЯ КАР'ЕРА АЗАРАНКА ПАЧАЛАСЯ ЎСЯГО 10 ГАДОЎ НАЗАД

Азаранка — маладая тэнісістка. Яна дэбютавала ў жніўні 2002 года ў Мінску на дамашніх спаборніцтвах тэнісістак ва ўзросце не старэй 18 гадоў. Зрэшты, дэбют быў няўдалы. У першым жа матчы Вікторыя саступіла расіянцы Вользе Пучковай.

Сапраўдны ж дэбют адбыўся ў 2003 годзе: Азаранка выйграла свой першы турнір на юніёрскім узроўні — перамагла ў спаборніцтвах G3 у Ташкенце (Юніёрскі тур ITF — вышэйшы дывізіён тэнісных спаборніцтваў сярод гульцоў, якія не дасягнулі 18-гадовага ўзросту).

2005 год стаў апошнім годам беларускай тэнісісткі ў юніёрскім тэнісе. Тады Азаранка выйграла Адкрыты чэмпіянат Аўстраліі і Адкрыты чэмпіянат ЗША ў юніёрскім разрадзе і была названа ITF чэмпіёнкай свету сярод юніёрак 2005 года. Яна стала першым гульцом з Беларусі, хто дабіўся гэтага звання.

"Дарослы" тэніс Азаранка таксама пачаўся ў 2005 годзе: яна ўдала правяла серыю турніраў у ЗША і прарвалася ў Top-300 тэнісістак свету.

## ПРЫГАЖУНЯ

Між тым Азаранка не проста выдатная тэнісістка — яна яшчэ і адна з самых прыгожых жанчын планеты. У якасці прыгажуні ў 2009 годзе Вікторыя знялася для французскага мужчынскага часопіса FHM. У 2010 годзе беларуская спартсменка трапіла на 11 месца ў рэйтынгу самых сексуальных спартсменак часопіса ESPN, а ў 2011 годзе часопіс Esquire назваў імёны самых сексуальных жанчын планеты. ВікторыяАзаранка заняла там 12 месца.

## НУМАР АДЗІН ПРА НУМАР АДЗІН

Асабістае жыццё Вікторыі Азаранка, здаецца, самая вялікая яе таямніца. Яна прызнаецца, што вельмі не любіць гаварыць прэсе пра сваё жыццё. Пра тое, што яна сустракалася з Сяргеем Бубкам-малодшым, прэса дакладна даведалася восенню 2010-га, калі тэнісістка адказвала на пытанні журналістаў пасля фіналу Кубка Крамля.

Разам яны былі каля двух гадоў, аднак у канцы 2012 "прайшла любоў, завялі памідоры". У снежні 2012 года Азаранка заявіла бразільскаму выданню Placar: «Цяпер магу сказаць, што мы з Сяргеем больш не сустракаемся. Мы з ім працягваем зносіны, але сустракацца перасталі. На дадзены момант я адна».

Адна Азаранка была нядоўга. Нястомныя папарацы ўсё часцей бачаць яе ў кампаніі вядомага рэпера Рэдфу. Азаранка і Рэдфу часта бываюць разам на вечарынках, разам ходзяць на розныя тэлешоу, а ў мінулым годзе на US Open першая ракетка свету прыйшла з Рэдфу нават на афіцыйную прэс-канферэнцыю.

16 студзеня гэтага года Азаранка прызналася: «Я закаханая, і ўсё роўна, як людзі ставяцца да майго выбару. Я сустракаюся з кімсьці асаблівым, я б сказала, што ён нумар адзін. Ён унікальны хлопец, і мы належым да дзвюх розных планет. Я магу гарантаваць, што ён сапраўды асаблівы чалавек, ён — каханне ўсяго майго жыцця. Я не люблю хваліцца сваім асабістым жыццём, але я рада, што ён побач са мной».

Зрэшты, Рэдфу не адстае ад Азаранкі. У сваім твітэры ён напісаў: «Я самы шчаслівы! Я сустракаюся з чалавекам нумар адзін на зямлі».

*Заканчэнне на стар. 8*

# ПАКРЫЎДЗІЛІ МАЦІ-АДЗІНОЧАК, ІПЭШНІЦ, АДВАКАТАЎ І НАТАРЫУСАЎ

**Павышаныя памеры штомесячнай дапамогі па доглядзе дзяцей ва ўзросце да трох гадоў павялічылі ледзь ці не ўдвая дастатак матуль у поўных сем'ях; амаль на 180 тысяч скарацілі даход жанчын, якія з'яўляюцца індывідуальнымі прадпрымальнікамі (ІП), адвакатамі і натарыусамі; і прыкладна на 120 тысяч палегчылі скарбонкі маці-адзіночак, дзеці якіх не дасягнулі 1,5 года.**



*Дзеці – безумоўна, шчасце. Асабліва калі яно дастойна падтрымліваецца дзяржавай*

## УРАЎНІЛАЎКА ПА КАТЭГОРЫЯХ

Памер новай дапамогі цяпер прывязаны не да бюджэту спажывецкага мінімуму (БСМ), а да сярэднямесячнага заробку па краіне, які на III квартал мінулага года складаў 4 037 686 рублёў (менавіта так вызначаецца новая дапамога). Такім чынам, яе памер з 1 па 31 студзеня роўны: на першае дзіця — 1 413 190 рублёў (35% ад сярэдняга заробку), на другога і наступных — 1 615 070 рублёў (40%), на дзіця-інваліда да трох гадоў — 1 810 960 (45%). Як бачна, лічбы паміж гэтымі катэгорыямі не надта адрозніваюцца, што наводзіць на думку аб спробе зрабіць усіх "дэкрэтніц" і іх дзяцей аднолькавымі, нягледзячы на розныя патрэбы.

> "Калі мне ўсё ж такі налічаць абяцаныя 1 413 190 рублёў, я буду задаволена хаця б тым, што змагу за апошнія паўгода знаходжання ў дэкрэце крыху "адбіць" свае выплачаныя амаль за дзесяць год працы падаткі. На момант майго сыходу ў дэкрэт яны складалі амаль тую ж суму, што і апошняя дапамога (440 тысяч)".

Так, дзяржава свядома пазбаўляецца ад паняцця "маці-адзіночка", бо адсачыць, хто на самай справе выхоўвае дзіця без бацькі, а хто носіць "ілжэ"-статус адзіночкі, чыноўнікі не могуць. Але і пры такім раскладзе больш пашанцавала дзецям "адзіночак", якія дасягнулі палутара гадоў: ім па старых нормах прызначаецца штомесячная дапамога з надбаўкай у 40% (з 1 лістапада 2012 года гэта складае 1 230 040 рублёў на першае дзіця). А вось "адзіночкі" з дзецьмі ва ўзросце да 1,5 года прайгралі: замест сумы з надбаўкай у 75% (1 540 052 рублёў на першынца) яны вымушаны "шыкаваць" на 1 413 190 руб.

Асобна стаяць маці — індывідуальныя прадпрымальніцы, адвакаты і натарыусы, якія могуць прэтэндаваць толькі на 50% ад новых сум. Палову дапамогі гэтым катэгорыям вырашылі плаціць таму, што, па меркаванні дзяржчыноўнікаў, кожная з іх мае магчымасць падпрацоўваць і не перапыняць сваю дзейнасць. Атрымліваецца так: нарадзіў, перадыхнуў пару дзён і зноў за працу па поўнай праграме, а дзеці ў іх такія, што самі аб сабе паклапоцяцца, пакуль маці занятыя? І калі ІП яшчэ могуць атрымаць дапамогу у 100%, спыніўшы сваю індывідуальную дзейнасць, то ў адвакатаў і натарыусаў такой магчымасці няма.

## ПЕРАРАЗЛІК ЗАДНІМ ЧЫСЛОМ

Закон "Аб дзяржаўнай дапамозе сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей", уступіў у сілу 1 студзеня бягучага года, аднак новыя сумы амаль ніхто з дэкрэтніц не атрымаў. У рэдкіх выпадках бухгалтары на "прасунутых" прадпрыемствах налічылі адпаведны памер дапамог. Астатнія схамянуліся толькі пасля зваротаў матуль і абяцалі ў лютым зрабіць пераразлік за студзень.

Прадстаўнікі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны тлумачаць затрымку "асаблівасцямі аўтаматызаванага разліку дапамогі ў органах па працы, занятасці і сацыяльнай абароне". Гэта азначае, што ва ўпраўленнях сацыяльнай абароны яшчэ не ўсталявана новая камп'ютарная праграма, з дапамогай якой налічваюць грошы.

*— У нас і сёння няма новых сум і мы не робім пераразлік. Хоць закон і дзейнічае з 1 студзеня, аднак практычна ўсё дагэтуль "на нулі": праграма выдае мінулагоднія сумы. Здавалася б, у нас усё павінна змяніцца ў першую чаргу, але на справе, як заўсёды, — у апошнюю,* — пракаменціравала сітуацыю **Галіна Бязуглая,** спецыяліст упраўлення сацыяльнай абароны адміністрацыі Заводскага раёна сталіцы. — *Новую праграму, хутчэй за ўсё, установяць у панядзелак (28 студзеня. — І.С.). Але і гэта не азначае, што пераразлік у лютым можна будзе атрымаць у прывычную дату. У лепшым выпадку гэта здарыцца пасля 20-х чысел.*

Атрымліваецца, што абяцанкі дзяржавы толькі падалі надзею, іх жа выкананне адклалася на пэўны тэрмін. Між тым жанчыны-маці ўжо паспелі распланаваць бюджэт з улікам "новых грошай" і ў чарговы раз засталіся з носам.

**Замужняя Аліна, маці Марыйкі** (2,5 года), якая ўжо паўгода ходзіць у дзіцячы садок:

*— На студзеньскія грошы я вельмі разлічвала, бо пачаліся маразы, а са старога камбінезона дачка вырасла, і я планавала набыць іншы (самы сціплы варыянт каштуе ад 600 тысяч). Канечне, гэтыя грошы і ў лютым не будуць лішнімі, але іх вартасць у адносінах да канкрэтных пакупак стане зусім іншай, чым сёння. Калі мне ўсё ж такі налі-*

*чаць абяцаныя 1 413 190 рублёў, я буду задаволена хаця б тым, што змагу за апошнія паўгода знаходжання ў дэкрэце крыху "адбіць" свае выплачаныя амаль за дзесяць год працы падаткі. На момант майго сыходу ў дэкрэт яны складалі амаль тую ж суму, што і апошняя дапамога (440 тысяч). З мужа падаткаў вылічваюць яшчэ больш, так што можна сказаць, што ён і выплачвае мне гэтую дапамогу.*

**Вольга, маці-адзіночка 8-месячнага Вані:**

*— Давялося чуць нямала непрывабных каментарыяў, а то і адкрытай зларадпасці ад маці з поўных сем'яў, што ім дапамогу павысілі ўдвая, а "адзіночкам" урэзалі. А ці думаў хто, наколькі ў сувязі з гэтым павелічэннем падымуцца цэны? Дзяржава напускае туману новымі памерамі дапамогі, каб потым, калі скокнуць цэны на харчаванне і адзенне, сказаць: "Дык мы ж вам так узнялі дапамогу!". Думала ў студзені накупіць у запас сыну кансерваў, а зараз баюся, ці не павялічацца да лютага цэны і ці хопіць пераразлічаных грошай.*

## ДЗІЦЯ — У САД, САМА — НА АДПАЧЫНАК?

Адзін са станоўчых момантаў новага закона тычыцца афармлення дзіцяці ў дзіцячы сад. Згодна з новым палажэннем, калі ты аддаеш дзіця ў сад і не ідзеш на працу альбо занятая на 0,5 стаўкі, альбо працуеш дома, то можаш атрымліваць 100-працэнтную дапамогу (раней гэтая лічба складала 50%). Як ні дзіўна, аднак некаторыя маці ўспрынялі гэтую норму як патуранне дармаедству, маўляў, аддала дзіця і сядзіш дома, у столь плюеш.




Між іншым для таго, каб дзіця прывыкла да новага месца, патрэбна не менш як паўгода: у гэты час малое часта хварэе, а каму патрэбен работнік, які тыдзень — на працы, а два — дома, з лісткам аб непрацаздольнасці? Так што ў гэтым плане дзяржава сапраўды паклапацілася пра матуль і даравала 100% дапамогі не для таго, каб дэкрэтніцы адпачывалі, а каб перажыць адаптацыю да садка.

**Вераніка, маці-адзіночка, выхоўвае сына Антона (2,1 года):**

*— Спрабавала падпрацоўваць дома, але маці, якая не высыпаецца, не лепшы вырыянт для сына. Наймаць няню, каб падпрацоўваць, не мае сэнсу, а хочацца, каб дзіця не ведала нястачы. І хоць сітуацыя мая некрытычная, але аддам сваю маляўку ў садзік раней і пайду на працу на поўны дзень.*

**Замужняя Таццяна, маці гадавалай Дашы:**

*— З новымі памерамі дапамогі я адназначна выйграла, калі не ўлічваць маю пазіцыю як грамадзяніна адносна справядлівасці прынятых норм. Магчымасць часткова выйсці на працу і атрымліваць дапамогу ў поўным памеры — гэта цудоўна, але рашэнне гэтае неабдуманае. Раней перспектыва страціць у грошах стрымлівала многіх маці, якія аддавалі дзіця ў сад як мага пазней. А сёння, мне здаецца, можам сутыкнуцца з праблемай яшчэ большай перагружанасці садоў, спатрэбяцца новыя ясельныя групы, паўстане пытанне напаўнення гэтых устаноў педагагічнымі кадрамі. Да таго ж узмоцніцца нежаданне людзей ісці на працу на ўмоўна кароткі тэрмін замест дэкрэтніц, і такія месцы будуць незапатрабаванымі.*

Змена правіл размеркавання дапамогі прывяла да чарговай парадаксальнай сітуацыі: адным катэгорыям жанчынам-маці памеры выплат павысілі за кошт іншых, парушыўшы тым самым норму Канстытуцыі, дзе сказана, што "ўсе маюць аднолькавае права на падтрымку дзяржавы".

**ІРЫНА СІНІЦА**

# ПА КОЛЬКАСЦІ ВЫЙШЛІ НА ЎЗРОВЕНЬ 1978 ГОДА

## Насельніцтва Беларусі ўпарта змяншаецца з 1994 года.

За апошнія 18 гадоў мы згубілі 778 тысяч чалавек. Гэта, вядома, не кожны трэці, як падчас вайны. Але кожны трынаццаты. Вось такая бязрадасная лічба, піша Еўрарадыё.

Цікава, што амаль 50 гадоў: з 1945 па 1994 — насельніцтва Беларусі стабільна расло. А вось з "паваротнага" 1994 года беларусы прынцыпова паміраюць у большай колькасці, чым нараджаюцца. І ніякія эканамічныя цуды не дапамагаюць. Цікава, што ж такога змянілася ў краіне ў гэты, здаецца, нічым не адметны год?

Калі б насельніцтва Беларусі працягвала скарачацца тымі ж тэмпамі, праз 15 гадоў мы "выйшлі" б на… даваенны ўзровень! А там і да дарэвалюцыйнага недалёка! Але за студзень — лістапад 2012 года натуральнае змяншэнне склала ўсяго 4,5 тысячы чалавек. Верагодна, «страты» Беларусі за ўвесь год не перавысяць 6 тысяч.

Сёлета ўлады ўсур'ёз узяліся за дэмаграфічную сітуацыю. Наведваючы РНПЦ неўралогіі і нейрахірургіі, кіраўнік дзяржавы паставіў задачу: выйсці на прырост насельніцтва да 2015 года. Дэмографы ўспрынялі гэтыя намеры скептычна. Маўляў, нараджаць няма каму.

А Еўрарадыё вырашыла высветліць, калі ўлады ўсвядомілі змяншэнне насельніцтва як пагрозу бяспецы Беларусі, і колькі гадоў гэтая найважнейшая праблема вырашаецца, як кажуць, на самым высокім узроўні.

**2004**

### ПАСЛАННЕ ПАРЛАМЕНТУ:

«Мусіць быць дапрацаваная Нацыянальная праграма дэмаграфічнай бяспекі. Ажыццёўленыя захады па павелічэнні нараджальнасці, зніжэнні смяротнасці насельніцтва».

**2006**

### ДАКЛАД НА 3-М УСЕБЕЛАРУСКІМ НАРОДНЫМ СХОДЗЕ:

«Важнейшыя задачы, якія стаяць перад намі, — гэта павышэнне нараджальнасці, зніжэнне смяротнасці і ўмацаванне сям'і. Гэта праблемы дзяржаўнай важнасці. Калі хочаце, праблемы выжывання нашай дзяржавы ў будучыні.

Насельніцтва нашай краіны скарачаецца, і вельмі хутка. Прыкладна 50 тысяч штогод. І калі мы не ліквідуем гэтыя «дэмаграфічныя нажніцы», не забяспечым роўнасці, а лепш — перавышэння нараджальнасці над смяротнасцю, Беларусь як самастойная дзяржава, згубіць гістарычную перспектыву».

**2010**

### ДАКЛАД НА 3-М УСЕБЕЛАРУСКІМ НАРОДНЫМ СХОДЗЕ:

«Трэба зрабіць усё, каб у нашай краіне прэстыжна было мець шмат дзяцей у сям'і. Некаторыя новаспечаныя дзеячы абяцаюць дзясяткі тысяч долараў на кожнага нованароджанага і дэкрэтны адпачынак ледзь не да паўналецця дзіця. Ну, мабыць, вырашылі падзяліцца з народам сваімі выбарчымі фондамі. Але і абяцаюць-та ўмоўна: ціпа, вылучым, але адразу не аддадзім, можа, пасля калі-небудзь, калі спатрэбіцца».

У 2010-м у Беларусі ўпершыню за апошнія 5 гадоў насельніцтва скарацілася больш значна, чым летась:

| Год | Натуральнае змяншэнне, тысяч чалавек |
|---|---|
| 2006 | -51,4 |
| 2007 | -41,7 |
| 2008 | -29,4 |
| 2008 | -26,0 |
| 2009 | -25,8 |
| 2010 | -29,1 |
| 2011 | -25,9 |
| Студзень - лістапад 2012 | -4,5 |

# МАЛОЧНАЯ ВАЙНА НА

**Украіна ў чарговы раз забараніла ўвоз беларускай малочнай прадукцыі. На гэты раз «пад раздачу» патрапілі «Бабуліна крынка», «Малочныя прадукты» і «Аршанскі малочны камбінат».**



Паводле паведамлення Дзяржаўнай ветэрынарнай і фітасанітарнай службы Украіны, абмежаванні на пастаўку прадукцыі гэтых прадпрыемстваў уведзены з 21 студзеня 2013 года ў сувязі з неадпаведнасцю прадукцыі ўкраінскім нарматывам бяспекі харчовай прадукцыі, у прыватнасці па мікрабіялагічных і фізіка-хімічных паказчыках. Пры гэтым партыі тавару, што паступілі да ўвядзення абмежаванняў, будуць аформлены пасля правядзення пашыранага веткантроля, а адмена часовай забароны магчыма «пасля прыняцця беларускім бокам належных мер і інспектавання названых прадпрыемстваў».

## ГЭТА НАВАТ НЕ НАВІНА

Варта адзначыць, што канфлікты з нагоды знакамітага беларускага малака і смятаны з Украінай у нас адбываюцца даволі рэгулярна. Гэтая забарона, напрыклад, трэцяя за год. У мінулым годзе ў лютым Украіна забараніла ўвоз малочнай прадукцыі аж 9 беларускіх прадпрыемстваў з-за таго, што ў прадукцыі было выяўлена перавышэнне максімальна дапушчальных узроўняў рэшткаў ветэрынарных прэпаратаў і значная колькасць антыбіётыкаў. Адначасова з гэтым Украіна забараніла і ўвоз беларускай свініны з-за падазронай успышкі захворвання, падобнага на афрыканскую чуму свіней у вёсцы Нязнанава Навагрудскага раёна Гродзенскай вобласці. Там было канфіскавана і спалена ўсё пагалоўе свіней з прыватных гаспадарак грамадзян.

Мінсельгас Беларусі аб'явіў гэта вучэннямі па барацьбе з афрыканскай чумой свіней. Украінцы не паверылі: хіба можна знішчаць жывёл, асабліва свіней, для навучання? Тым больш не калгасных свіней, а, скажам так, «грамадзянскіх». У іх галаву гэта не ўкладваецца.

Гэтыя забароны былі зняты толькі ў пачатку траўня. Аднак «малочны мір» працягваўся нядоўга. Ужо 7 жніўня тая ж Дзяржветфітаслужба Украіны зноў уводзіць забарону, на гэты раз — на прадукцыю ААТ «Беллакт». У прадуктах жывёльнага паходжання (сухой малочнай сумесі для дзіцячага харчавання «Беллакт Біфіда 2»), што выпускаюцца заводам ААТ «Беллакт» у Ваўкавыску, выяўлена неадпаведнасць па мікрабіялагічных паказчыках (цвіль).

Чаму ж узнікаюць такія забароны? Няўжо беларусы настолькі крываруекія, што не могуць зрабіць нармальнае малако?

## ТЭХНАЛОГІЯ ЦІ ПАЛІТЫКА?

Былы старшыня прафсаюзаў аграпрамысловага комплексу Беларусі **Аляксандр Ярашук** лічыць, што такія прэтэнзіі носяць як палітычны, так і тэхналагічны характар. Але фармальна бок, які ўводзіць забарону на ўвоз прадукцыі, амаль заўсёды мае рацыю. «З аднаго боку, у нас усе тэхрэгламенты, па вялікім рахунку, выконваюцца. Але з іншага боку, нават фенаменальная гандлёвая зброя расіян — галоўны санітарны ўрач Генадзь Анішчанка — фармальна заўсёды мае рацыю. Наша прадукцыя не адпавядае стандартам Еўрасаюза, уласна кажучы, таму ў нас такія цяжкасці з прасоўваннем сваёй сельскагаспадарчай прадукцыі на еўрапейскія рынкі. Там вельмі жорсткія рэгламенты. А з іншага боку, усе ва Украіне, у Расіі і ў нас у Беларусі разумеюць, што сельскагаспадарчая вытворчасць нам дасталася з часоў СССР, і мадэрнізаваць яе вельмі складана і доўга. Таму часцяком з разуменнем ставяцца да нейкіх «лішкаў» па антыбіётыках і гэтак далей. Таму можна казаць і пра «палітычнае» рашэнне забароны на ўвоз такіх тавараў», — лічыць Ярашук.

«Таму забарона на ўвоз беларускіх малочных прадуктаў ва Украіну ці Расію, як гэта ні парадаксальна, адначасова мае як аб'ектыўныя фактары,

> "А з іншага боку, усе ва Украіне, у Расіі і ў нас у Беларусі разумеюць, што сельскагаспадарчая вытворчасць нам дасталася з часоў СССР, і мадэрнізаваць яе вельмі складана і доўга. Таму часцяком з разуменнем ставяцца да нейкіх «лішкаў» па антыбіётыках і гэтак далей. Таму можна казаць і пра «палітычнае» рашэнне забароны на ўвоз такіх тавараў», — лічыць Ярашук".

# ВЫЖЫВАННЕ

так і неаб'ектыўныя, гэта як «палітычная мера», так і «непалітычная». Гэтыя забароны адначасова з'яўляюцца і тым, і другім», — кажа Ярашук.

## ЧЫМ АДКАЖА БЕЛАРУСЬ?

Як лічыць украінскі эксперт па пытаннях аграпрамысловага комплексу Уладзімір Канавальчук, у гэтай сітуацыі Беларусь можа адказаць Украіне адэкватна: забаронай на ўвоз украінскіх тавараў. "Такога роду абмежаванні нярэдка прыводзяць да таго, што другі бок канфлікту спрабуе ўвесці розныга роду санкцыі ў адказ. І цяпер яны цалкам могуць быць прыменены ў адносінах да Украіны. Мы назіралі гэта ў мінулым, калі ўкраінскі бок нешта забараняў, і ўзнікала зваротная рэакцыя з беларускага боку, які забараняў, у сваю чаргу, нешта ўкраінскае", — лічыць ён.

На яго думку, Беларусь можа забараніць увоз прадукцыі ўкраінскай малочнай прамысловасці, сыроў і збожжа.

Але, хутчэй за ўсё, Беларусь дасць «асіметрычны адказ» і забароніць увозіць у Беларусь украінскае піва. Гэта самы дзейсны спосаб націску на Украіну, правераны ўжо не раз. У прыватнасці, у мінулым годзе дамоўленасць аб зняцці санкцый з дзевяці малочных беларускіх прадпрыемстваў была дасягнута менавіта ў абмен на зняцце абмежаванняў па імпарце ўкраінскага піва. А гэта надта вялікія грошы: калісьці ўкраінскае піва (да ўвядзення абмежаванняў на яго імпарт у канцы 2010 года) займала да 30% на піўным рынку Беларусі.

## ДАЛЕЙ БУДЗЕ ГОРШ

На думку Аляксандра Ярашука, Беларусь у «сельскагаспадарчыя вайны» будзе ўцягвацца ўсё больш і больш. «Я з асаблівай заклапочанасцю сачу за тым, як ідзе наша прадуктовая экспансія на расійскі рынак. Ужо сёння мы нарошчваем туды пастаўкі прадукцыі сумніўнымі метадамі, у прыватнасці проста дэмпінгуючы па цэнах аналагічную расійскую прадукцыю. Нічым добрым гэта не скончыцца. Па-першае, нельга «класці ўсе яйкі ў адзін кошык», а па-другое, расійская сельская гаспадарка (зрэшты, як і ўкраінская), пакутлівая, цяжка, але адраджаецца на прыватнай аснове. Да таго ж Расія ўступіла ў СГА, і ў нас з'явяцца такія канкурэнты, як вельмі якаснае малако з Новай Зеландыі і вельмі якаснае мяса з Лацінскай Амерыкі. Так што нам варта чакаць і рыхтавацца да «перадзелу» расійскага рынку», — кажа Ярашук.




*Беларуская згушчонка як адзін з самых вядомых беларускіх брэндаў*

**На думку Аляксандра Ярашука, Беларусь у «сельскагаспадарчыя вайны» будзе ўцягвацца ўсё больш і больш.**

Таму будучыня беларускай сельскай гаспадаркі — толькі ў мадэрнізацыі вытворчасці і выхадзе на еўрапейскія рэгламенты прадукцыі, а потым — на сусветныя рынкі. Аднак гэтага пакуль няма. «Толькі за 2005—2009 гады ў Беларусі ў сельскую гаспадарку было ўкладзена $42 млрд. Яны былі ўкладзены вельмі неэфектыўна, аддачы ад іх мы не атрымалі ніякай, інакш не было б «малочных войнаў». Патрэбна мадэрнізацыя вытворчасці, і мадэрнізацыя тэрміновая», — лічыць Ярашук.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ГАННА ЧАПМАН: СА МНОЙ РАЗМАЎЛЯЦЬ БЕССЭНСОЎНА

**Аляксандра Лукашэнку некалькі разоў спрабавалі атруціць. Замахі ЦРУ на жыццё беларускага кіраўніка выкрыла ў сваёй праграме «Таямніцы свету» — «Адкрыцці. Агенты ў белых халатах» расійская экс-шпіёнка, тэлевядучая Ганна Чапман на канале «РЕН ТВ», паведамляе Еўрарадыё.**

Еўрарадыё пацікавілася ў Ганны Чапман, адкуль у стваральнікаў праграмы гэтая інфармацыя і наколькі ёй можна давяраць. «Я лепш ваш нумар дашлю сваім рэдактарам, а са мной бессэнсоўна размаўляць, добра?» — з выбачэннямі былая шпіёнка паклала слухаўку.

Абяцанні расійскай тэлевядучай, што яе рэдактары абавязкова патэлефануюць карэспандэнту, засталіся нявыкананымі — ніхто цягам дня так і не адгукнуўся. Больш за тое, прадзюсарка праграмы Чапман Юлія Шамаль не адказала на тэлефанаванні з беларускага нумара.

Нагадаем, паводле Ганны Чапман, першы раз Лукашэнку спрабавалі атруціць брусьнічным сокам, другі — на ім выпрабоўвалі новы тып наркотыкаў. Згодна з версіяй стваральнікаў праграмы, за мінскім выбухам 2008 года таксама стаяла ЦРУ. Тады агенты распылілі газ, які «павінен быў прымусіць прагрэсаваць старую хваробу Лукашэнкі — мазаічную псіхапатыю», гаворыцца ў праграме.

«Гэта — трызненне сівой кабылы! — каментуе інфармацыю прэс-сакратар кіраўніка краіны Павел Лёгкі. — А гэтым людзям я зычу творчага росту, на што яны бліжэйшым часам наўрад ці могуць разлічваць, і новых крэатыўных ідэй».

Як можа інфармацыя пра замахі адбіцца на рэйтынгу кіраўніка краіны, Лёгкі разважаць адмаўляецца.

Не верыць у праўдзівасць інфармацыі «ад Чапман» і журналіст, аўтар кнігі «Выпадковы прэзідэнт» Павел Шарамет, які таксама фігуруе ў праграме «РЕН ТВ»: «Лукашэнка панічна баіцца замахаў, ён даўно сябе атачыў шчыльным колам ахоўнікаў — ніхто не можа проста так да яго наблізіцца. А тым больш каб атруціць яго брусьнічным сокам, як там сцвярджаецца. Таму гэта ўсё спекуляцыі, пустыя размовы і глупствы».

Праграму Чапман Павел Шарамет называе «дрэнным анекдотам». І прыгадвае, што летась яна стварала праграмы пра іншапланетнікаў, а цяпер — пра палітыкаў. «Праграма — скандальная. Плюс у яе ў групе працуе журналіст з Беларусі — ён, відаць, і падказаў ёй гэтую тэму. Ніякай дзяржзамовы Крамля ці якой іншай лухты за гэтым не стаіць».

Што тычыцца ЦРУ, то, упэўнены Шарамет, яго абралі невыпадкова — гэта старадаўняе пудзіла для ўсіх грамадзян былога СССР. Ніхто б не паверыў, што замахі можа арганізаваць нейкая еўрапейская спецслужба.




**ЗМІЦЕР ЛУКАШУК**

*Заканчэнне.
Пачатак на стар. 3*

# ТОП-5 З ЖЫЦЦЯ ВІКТОРЫІ АЗАРАНКІ

## СКАНДАЛЫ

Пасля выйгрышу ў амерыканкі Слоан Стывен на паўфінальным паядынку Адкрытага чэмпіянату Аўстраліі вакол Азаранка разгарэўся скандал: эксперты падазраюць яе ў неспартыўных паводзінах. У другім сэце пры ліку 5:3 на яе карысць Вікторыя Азаранка пасля працяглага розыгрышу, не выкарыстаўшы некалькі матчболаў, аддала амерыканцы сваю падачу. Лік стаў 5:4. Беларуска адразу ж (перад падачай саперніцы) звярнулася за дапамогай да медыкаў, а затым узяла медыцынскі тайм-аўт. Пасля аднаўлення матча яна даволі лёгка набрала неабходнае для перамогі ў матчы ачко — 6:4.

У пасляматчавым інтэрв'ю ў адказ на пытанне аб траўме Азаранка адказала, што перанервавалася. Гэта выклікала абурэнне ў тэнісных экспертаў. Тое, што Азаранка «перанервавалася», не з'яўляецца падставай для медыцынскага тайм-аўту, які можна ўзяць па прычыне хваробы або траўмы.

Хутчэй за ўсё, Азаранка проста недакладна выказалася. Аднак гэта ўжо не першы выпадак, калі Вікторыю падазраюць у несумленнай гульні. У мінулым годзе на турніры ў Досе такія выказванні ў адрас беларускі дапусціла Агнешка Радваньска, якая фактычна абвінаваціла беларуску ў сімуляцыі. У паўфінальным матчы турніру ў сталіцы Катара полька саступіла Вікторыі пасля таго, як Азаранка на працягу матча аказвалася медыцынская дапамога. Агнешка сказала, што пасля матча стала значна менш паважаць Азаранка: «Я злавалася на яе, таму што такія паводзіны ствараюць жаночаму тэнісу не лепшы імідж».

## АЗАРАНКА І ПРЭЗІДЭНТ

Пасля першай перамогі на Australian Open у Мельбурне ў мінулым годзе Аляксандр Лукашэнка не толькі павіншаваў Азаранка з перамогай на турніры Вялікага шлема, але і адзначыў яе высокай дзяржаўнай узнагародай — ордэнам Айчыны III ступені.

«Дарагая Вікторыя! Ад усёй душы віншую цябе з выдатнай перамогай на прэстыжным турніры Вялікага шлема Australian Open у Мельбурну. Без перабольшання ўся краіна, затаіўшы дыханне, сачыла за гарачай барацьбой на корце, перажывала і хварэла за цябе. У гэтыя марозныя студзеньскія дні сваёй перамогай ты запаліла сэрцы беларусаў, прадэманстраваўшы сілу духу, узорную вытрымку, сапраўднае майстэрства і прыгожую гульню. Віка, ты гонар нацыі! Радзіма захоплена тваім выбітным дасягненнем, якое ўжо ўпісана ў гісторыю беларускага і сусветнага спорту», — гаварылася ў віншаванні.

У гэтым годзе на прэс-канферэнцыі з беларускімі журналістамі Лукашэнка прызнаўся, што сочыць за турнірам і кожная перамога Азаранка для яго — гэта чарговыя станоўчыя эмоцыі.

Між тым на гэты раз прэзідэнт расстараўся і знайшоў нумар Вікторыі, паколькі з перамогай яе павіншаваў па тэлефоне. «Прэзідэнт у тэлефоннай размове адразу ж пасля перамогі ў фінале павіншаваў тэнісістку», — паведаміў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» кіраўнік прэс-службы прэзідэнта Павел Лёгкі.



*Суперэлітны і прэстыжны тэніс цяпер звязваюць і з Беларуссю*

Аб узнагародзе Азаранка ордэнам Айчыны другой ступені пакуль што нічога не паведамляецца.

## РАДАСЦЬ БЕЛАРУСІ

Прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму Уладзімір Несцяровіч вельмі ўсцешаны, што Азаранка двойчы выйграла Australian Open. "Для Беларусі любая перамога на такім прэстыжным турніры з'яўляецца прычынай, каб радавацца за наш спорт, за нашу суайчынніцу і не толькі за яе: за сваю краіну, яе трэнераў, яе каманду. Так што, канечне, у нас шмат радасці", — кажа Несцяровіч.

Пры гэтым закіды ў бок Азаранка наконт таго, што ў паўфінале яна згуляла "нячыста", Несцяровіч адмаўляе. "Па-першае, гэтую хвалю паднялі амерыканцы, менавіта таму, што амерыканка прайграла ў паўфінале. Яны заўсёды гэта робяць, наша ж справа — бараніць Вікторыю. Па-другое, той вэрхал паднялі журналісты. Але ж спецыялісты на корце аглядалі Азаранка, і менавіта яны дазволілі ёй узяць гэты тайм-аўт і пакінуць корт. Каб на гэта не было дастатковых прычын, яны б прапанавалі прадоўжыць матч", — кажа Несцяровіч.

Да таго ж, адзначыў ён, такія праблемы былі падчас фіналу ў На Лі: Азаранка таксама брала медычны тайм-аўт. Але ж яе ў "бруднай гульні" ніхто не абвінавацiў.

"Такая перамога — гэта не толькі ўзнагароды і радасць, гэта яшчэ і дадатковае прыцягненне ўвагі ўвогуле да спорту, — лічыць Несцяровіч. — Шмат якія хлопчыкі і дзяўчынкі, захапіўшыся Азаранка, пойдуць займацца тэнісам, а можа і не толькі тэнісам. Гэта таксама вялікае дасягненне такіх перамог".

**СЯРГЕЙ КОЎШ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 31.01.13
Тыраж 299 экзэмпляраў